# Бацькаўшчына

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“

Цана 50 н. фэн.

№ 23 (26) 4 ліпеня 1948 г. год выданьня 2


# УСЮДЫ ВОЙСТРЫ КРЫЗІС

## І ЗА «ЗЯЛЕЗНАЙ»

### ТЫТО АДЛУЧАНЫ АД МАСКВЫ

**Прага (ДЭНА-Рэйтар).** Камінформ апублікаваў камунікат, якім у канцавым выніку «адлучаецца» прэм'ер Югаславіі маршал Тыто, а верным сябром югаслаўскае камуністычнае партыі раіцца зьмяніць сваіх правадыроў, калі апошнія ня будуць у стане зьмяніць сваю палітыку.

Югаслаўскім камуністым пад правадырствам марш. Тыто закідаецца, што яны раўналі палітыку СССР да «мерапрыёмстваў імпэрыялістычных дзяржаваў», моўчкі прыймалі тэорыю, што «капіталістыя» становяць меншую небясьпеку для югаслаўскае незалежнасьці, як СССР, вялі прапаганду супраць СССР, спрабавалі выклікаць недавер да чырвонае арміі. У Югаславіі блага абходзіліся з савецкімі вайсковымі спэцыялістымі, савецкіх цывільных спэцыялістых ставілі пад кантроль паліцыі бясьпекі, такія-ж мэтады ўжываліся да белградзкіх прадстаўнікоў савецкае камуністычнае партыі і нат да поўнага ліку савецкіх афіцыйных прадстаўнікоў. Камінформ згаджаецца з пастановаю ЦК савецкае камуністычнае партыі, што зазначае пра хібную палітыку ЦК камуністычнае партыі Югаславіі «і асабліва таварышоў Тыто, Кардэля (першы заступнік Тыто), Дыляса (міністар без партфэля) й Ранковіча (міністар нутраных справаў)». Ім усім закідаецца «контррэвалюцыйны трацкізм», «нацыяналізм», «рэвізія марксызму-ленінізму», «схаваньне камун. партыі за народным фронтам», «дыктатура» над ёю, «ухіляньне ад выбараў», ад «крытыкі й самакрытыкі», нарэшце — адмова ўзяць удзел у апошнім паседжаньні камінформу. ЦК югаслаўскае кампартыі і ўся партыя абвяшчаецца «вонках сям'і братніх кампартыяў, задзіночанага камуністычнага фронту й камінформу».

### ЯК БОМБА...

**Бад Наўгайм (ДЭНА).** Паведамленьне пра «пракляцьцё» кампартыі Югаславіі й ейнага кіраўніцтва камінформам выклікала ў цэлым сьвеце ажыўленую ўвагу. У самой югаслаўскай сталіцы паведамленьне камінформу выбухнула, як бомба. Афіцыйнага заняцьця становішча зь Белграду яшчэ няма.

Кіраўнічыя амэрыканскія дыплёматы ў Вашынгтоне уважаюць за ясныя прынамся два пункты: 1) камуністычнае «найвышэйшае камандваньне» мае дачыненьне зь першым вялікім разломам у ўсходня-эўрапейскім блёку сатэлітаў, 2) «найвышэйшае камандваньне» спачатку абмеркавала, а пасьля засудзіла правадыроў кампартыі Югаславіі, бо гэткі мэтад гадамі ўжываецца камуністымі ў СССР і вонках.

Дырэктар інфармацыйнага агенцтва ІНС на Эўропу ў Парыжы разглядае справу, як найзначнейшую й найдалёкасяжнейшую падзею ад часу канца другое ўсясьветнае вайны.

У Трыесьце апублікаваньне камунікату камінформу, паводля АФП, выклікала сярод жыхарства яшчэ глыбейшае ўражаньне, як вестка аб ськінуцьці Мусаліні ў 1943 г.

У лёнданскіх дыплёматычных колах выказваецца пагляд, што Масква выключэньнем югаслаўскае кампартыі з камінформу заклікае Югаславаў да бунту супраць іхнага правадырства. Але прабег такой акцыі вельмі няпэўны, бо якраз 4 засуджаныя сябры ўраду — кіраўнічыя людзі Югаславіі. Маршал Тыто — і прэм'ер і міністар абароны — можа лічыць на поўную вернасьць арміі. Навет сярод югаслаўскіх некамуністых маршал Тыто, наўсуперак свайму дыктатарству, набыў поўную папулярнасьць. Пасьля ягонага «пракляцьця» гэтая папулярнасьць цяпер, праўдападобна, магутна ўзрасьце.

## АПОШНІМ ЧАСАМ

* У Бэрлін прыбыў заступнік амэрыканскага міністра абароны, дзяржаўны падсэкратар міністэрства Уільям Дрэпэр.

* Маршал Тыто й іншыя кіраўнічыя камуністыя Югаславіі вядуць бязупынныя патаёмныя канфэрэнцыі на кватэры ў Тыто.

* Італія й Ірляндыя першымі з эўрапейскіх краёў падпісалі двубаковыя ўмовы з ЗША ў справе пляну Маршала.

* Прэзыдэнт Труман падпісаў законы: аб амэрыканскай замежнай памозе ў суме 6 030 710 223 даляраў, аб 21-месячнай абавязкавай вайсковай службе для мужчынаў 19-25 год і **аб прыняцьці 205 000 уцекачоў у ЗША**.

## САВЕЦКАЯ БЛЁКАДА

### БЭРЛІНСКІЯ ПАДЗЕІ

**Бэрлін** (паводля **ДЭНА**). Шэф савецкай вайсковай адміністрацыі, маршал Сакалоўскі, у пададзенай праз бэрлінскае радыё адозьве да жыхарства заявіў, што саюзная камандантура ў Бэрліне практычна спыніла існаваць, як орган кіраўніцтва гораду. Саветы, выключыўшы падачу току ў заходнія сэктары Бэрліну, цяпер загадалі спыніць усе харчовыя транспарты ў Бэрлін. Разам з поўным спыненьнем міжзоннага руху, гэта азначае татальную блёкаду заходніх сэктараў Бэрліну. Паводля заявы амэрыканскага каманданта гораду, харчовага запасу стане на 2-4 тыдні. Брытанцы й Амэрыканцы спрабуюць усе спосабы для забясьпечаньня гораду паветраным шляхом. Ужо прыбылі дзеля гэтага з ЗША і працуюць 39 транспартавых самалётаў, атрымалі загад прыбыць 100 брытанскіх самалётаў. Магчымае пасланьне трыма заходнімі аліянтамі агульнае ноты ў Маскву ў справе савецкае блёкады Бэрліну. Брытанскі губэрнатар на Нямеччыну ген. Робэртсон зьвярнуўся пісьмова да марш. Сакалоўскага, выступаючы за безадкладнае аднаўленьне нармальнага руху між Бэрлінам і заходнімі зонамі. Пры праезьдзе праз амэрыканскі сэктар Бэрліну марш. Сакалоўскі быў затрыманы амэрыканскай паліцыяй за парушэньне найвышэйшае хутчыні язды й пратрыманы 31 часіну. Ген. Клей прынёс выбачэньне перад Сакалоўскім у гэтым выпадку. Бэрлінскі магістрат разважае справу аб звароце да Задзіноч. Нацыяў. Паводля запярэчаных вестак, аб гэткім звароце да ЗН меў прасіць данскага міністра замежных справаў ген. Робэртсон у часе сваіх кагадзешніх наведзінаў Капэнгагену. Саветы забаранілі прывоз мэдыкамэнтаў у заходнія сэктары. Як у вадплату, заходнія ўлады спынілі забясьпечаньне ўсходняга сэктару інсулінам і пэніцылінам.

### ГАЛАСЫ ПРА БЭРЛІН

**Бэрлін** (паводля **ДЭНА**). Кіраўнічыя асобы амэрыканскага вайсковага кіраўніцтва Нямеччыны характарызуюць сучаснае разьвіцьцё ў Бэрліне, як «найцяжэйшы крызіс, які толькі быў у якім-небудзь пункце сьвету між ЗША, заходнімі аліянтамі й СССР ад часу канца вайны».

Чэрчыль на сходзе кансэрватыўнае партыі заявіў, што падзеі ў Бэрліне якраз такія цяжказважкія, як у часе Мюнхенскага крызісу.

Амэрыканскія газэты ў бальшыні падхапляюць гэты пагляд Чэрчыля й згаджаюцца зь ім. «Нью Ёрк Таймс» пры гэтым уважае, што ў заходніх дзяржаваў ёсьць 3 магчымасьці: 1) супакоіць саветы адыходам з Бэрліну, 2) узяць пад развагу варшаўскія прапановы да разьвязаньня справы Нямеччыны і 3) адплаціць СССР роўным за роўнае. Да апошняга належыць энэргічны пратэст і дэмарш перад ЗН. Газэта «Вашынгтон Пост» піша, што палажэньне ў Бэрліне ўсё-ж іншае, чым было ў Мюнхэне. Былая нямецкая сталіца ўсяго сядзіба цэнтральнага кіраўніцтва акупаванае Нямеччыны, якога больш ня існуе. Няма лёгікі, пасьля пастановы стварыць заходня-нямецкі ўрад у Франкфурце, трымаць яшчэ фарпосты ў Бэрліне, якія ня будуць мець больш ніякіх заданьняў.

Уплывовая ангельская газэта «Обсэрвэр» выказваецца за тое, каб у дыплёматычным змаганьні за нямецкую сталіцу кінуць на шалі вагаў веданьне заходнімі дзяржавамі атомнае зброі. Газэта зазначае, што прыпушчальна ў межах наступных трох год СССР зробіць собскую атомную зброю. Калі гэты час прыйдзе, ня будзе больш ніякае магчымасьці выкарыстаць перавагу Захаду ў гэтым пункце.

### ВЫЛУЧНЫ СТАН У АНГЕЛЬШЧЫНЕ

**Лёндан (ДЭНА).** На параду ўраду, ангельскі кароль выдаў праклямацыю аб вылучным стане, што дае ўраду паўнамоцтвы ўжываць мерапрыёмствы, канечныя для ўтрыманьня харчовага забясьпечаньня брытанскага жыхарства.

Паводля афіцыйных дадзеных, у лёнданскіх доках бастуе 19 000 работнікаў. Безадказнае захаваньне поўнае часткі работніцтва пагражае харчоваму забясьпечаньню брытанскага народу.

### УВАГА!

**Цана нашае газэты ў новай нямецкай валюце тымчасам установленая на 50 фэнігаў за нумар. Цэны за межамі застаюцца старымі.**

# ПІЛЬНАЯ СПРАВА

Бадай усе нацыянальныя групы ДП, якія ў выніку мінулае вайны апынуліся за межамі сваіх краёў, цяпер вельмі актыўна, як на балонах свайго пэрыядычнага друку, а таксама і ў вадмысловых выданьнях шырака асьвятляюць гістарычныя падзеі ад сама старых часоў аж да нашых дзён, высьвятляюць і абмяркоўваюць праблемы гаспадарскае (эканамічнае) структуры гэтых краёў у мінулым і ў будучым ды даюць дэтальныя геаграфічныя нарысы аб іх.

Цяпер, калі мы маем свой пэрыядычны друк, мы павінны безадкладна пачаць тую самую працу. Гэтыя меркаваньні выклікаюцца цэлым сьцягам абставінаў. Нашая эміграцыя, а асабліва ейнае маладое пакаленьне, якое ўзгадоўвалася ў школах, што сваім духам ня былі нашымі нацыянальнымі, вельмі мала ведае як аб мінуўшчыне, а таксама й сучаснасьці нашае Бацькаўшчыны. Узяць хоць-бы тых, што гадаваліся пад уплывам савецкім (ці то ў Савецкай Беларусі, ці то ў Заходняй, пасьля акупацыі яе). Веда іхная абмяжоўвалася часамі гісторыі пасьлярэвалюцыйнага пэрыяду, тэрыторыяй г. зв. БССР, мінаючы карэнныя беларускія землі, што часова апынуліся за межамі Савецкай Беларусі (Віленшчына, Дзьвіншчына, Падляшша, Смаленшчына, Вялікалуччына, Браншчына й інш.). Зразумела, што беларуская інтэлігенцыя павінна ўзяць за свой абавязак высьвятліць у запраўдным гістарычным і сучасным разрэзах праўдзівы стан рэчаў, прышчапляючы ўсім, і моладзі першым чынам, любасьць да свайго Краю й Народу.

Спынімся больш канкрэтна над галоўнымі з нашых задачаў:

1. Нашая Бацькаўшчына на працягу свайго йснаваньня была ў розных абставінах, пачынаючы ад часу, калі яна, як Вялікае Княства Літоўскае, займала пануючае палажэньне ўва Ўсходняй Эўропе і канчаючы на паднявольных часох бальшавізму, калі аддадзеная на наругу, раскроеная й падзеленая, яка йснуе толькі намінальна, на паперы. Павінны быць падрабязна асьветленыя дзеяньні й чыны нашых вялікіх прашчураў Пр. Скарыны, Аўфр. Полацкай, Усяслава Чарадзея, вялікіх князёў Міндоўга, Ягайлы, Альгерда й іншых, змагароў за справу Беларусі, як Кастуся Каліноўскага, Грынявецкага, а таксама зацятае змаганьне нашага народу за сваю незалежнасьць нашымі часамі з праўдзівым асьвятленьнем ролі такіх асобаў (хаця яны й былі камуністымі), як Ігнатоўскі, Прышчэпаў, Чарвякоў, Галадзед, Шаранговіч і інш.

Не павінна застацца ў баку сучасная жорсткая русыфікацыя ня толькі тэрыторыяў, якія фармальна й фактычна належаць Расейскай «фэдэрацыі» (Смаленшчына, Браншчына, Вялікалуччына), а й самой г. зв. БССР, дзе фактычна беларускае літаратурнае мовы ня йснуе, а калі й ёсьць для паказу, дык гэтак папсутая, што проста нельга чытаць (прыкладам: «Мінская вобласьць выпаўніла план хлебазагатовак да гадавіны Акцябра». Што гэта, мова ці шарж?), дзе на пасадах міністраў і кіраўнікоў іншых органаў няма бадай ніводнага Беларуса, а вылучна імпартаваныя з Расеі або зь іншых краёў (Гусараў, Ігнацьцеў, Цанава-грузін, Кісялёў, што «бароніць» нашыя інтарэсы на міжнароднай арэне, Казлоў, Панамарэнка, Мельнікаў і інш.). Таксама, як за царом, калі на Беларусі былі Мусіны-Пушкіны, Гірсы, Курловы й інш.

Ці ведае хто такі край у сьвеце, дзе-б прэзыдэнт і прэм'ер-міністрар ня ведалі мовы гэтага краю? Гэта сьмешна, але нажаль якраз у Беларусі роўны прэзыдэнту Казлоў, прэм'ер Панамарэнка, міністар замежных справаў Кісялёў, міністар нутраных справаў Цанава — ня ведаюць беларускае мовы, бо яны не Беларусы.

2. За часы свае гісторыі Беларусь перабывала ў сама разнастайных эканамічных абставінах. У нашым краі быў і фэўдальны лад за старымі часамі, перажыў ён і жудасныя часы царскага прыгону, быў ператвораны ў калёнію Расейскае Імпэрыі, быў падзелены паміж колькіх краёў (Расея, Польшча, Лацьвія), у якіх быў сама разнастайны эканамічны ўклад, перажывае цяпер час нячуванага ў сьвеце жудаснага экспэрымэнту ў выглядзе калгаснага ладу, які супярэчыць прыродзе нашага народу. Прыватная маемасьць і собская ініцыятыва ня йснуюць. На горкім дазнаньні гэтых прыкладаў наш абавязак у тым, каб выпрацаваць ужо тут такія формы эканамічнага ўкладу, якія адпавядалі-б нацыянальным асаблівасьцям нашага народу, з тым, каб будучыя падзеі не захапілі-б нас зьнячэўку. Гэта праца вельмі адказная й вымагае мабілізацыі ўсяе нашае грамадзкасьці.

3. Балоны нашага нацыянальнага друку павінны быць скарыстаныя для шырокага геаграфічнага апі-

